*У школьныя класы хочуць пасадзіць міліцыю (стар. 2)*
*Селязнёў у Варшаве ўцякаў ад Шарэцкага (стар. 3)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Наклад 34.250
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Серада, 9 ліпеня 1997 г. № 73 Кошт свабодны

## Ветэран урада не хоча быць прэм'ерам?

**У кулуарах урада з'явіліся чуткі аб магчымай адстаўцы Сяргея Лінга з пасады прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь. Паводле неафіцыйнай інфармацыі, С.Лінг нібыта падаў прашэнне аб адстаўцы на імя прэзідэнта Лукашэнкі.**

Сяргей Лінг працаваў у складзе беларускага ўрада з 1986 года. 18 лістапада 1996 года, пасля таго, як падаў у адстаўку тагачасны прэм'ер Міхаіл Чыгір, Сяргей Лінг быў прызначаны выконваючым абавязкі кіраўніка беларускага ўрада. На пасадзе прэм'ер-міністра Беларусі С.Лінг быў зацверджаны ўказам прэзідэнта 19 лютага 1997 года.

*БелаПАН*

## Летняе турнэ Зянона Пазьняка

**У другой палове ліпеня старшыня Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк плануе наведаць Злучаныя Штаты Амерыкі і шэраг краін Еўропы.**

Як сказаў Зянон Пазьняк, у ЗША ён мае намер правесці шэраг сустрэч з членамі Кангрэса Злучаных Штатаў і іншымі палітыкамі. Паездка ў ЗША, зазначыў лідэр БНФ, выкліканая *«пэўнай палітычнай неабходнасцю»*.

Перад візітам у Злучаныя Штаты З.Пазьняк мяркуе наведаць шэраг краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы: Чэхію, Украіну, Літву. *«БНФ мае пастаянныя міжнародныя сувязі — яны патрабуюць і пастаянных сустрэч. Напрыклад, у Кіеве Фронт адчыніў прадстаўніцтва, і мая паездка ў сталіцу Украіны будзе мець рабочы характар»*, — паведаміў Зянон Пазьняк.

*БелаПАН*

## Стараліся для госця, радуюцца самі

*У чыстай вёсцы і так жыць прыемна*

Некалькі месяцаў саўгас «Асташковічы» Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці жыў у чаканні прэзідэнта. Візіт Лукашэнкі планаваўся яшчэ на 9 траўня: саўгас заслужыў увагу высокага госця тым, што першым у вобласці адолеў пасяўную.

Рыхтуючыся да прыезду прэзідэнта, у Асташковічах навялі марафет: пачысцілі вуліцы, вывезлі смецце, паправодзілі калонкі з вадой, пабялілі і пафарбавалі ўсё што толькі можна было, на слупах павесілі ліхтары. А Лукашэнка ўсё не едзе...

Цяпер, ідучы па прыбраных вуліцах або проста седзячы на прызбе, вяскоўцы любяць паспрачацца на гэтую тэму. Адны кажуць, што дарэмна мыліся: усё роўна госць не пабачыў. Другія ж рэзонна пярэчаць: у чыстай вёсцы яно і без прэзідэнта жыць прыемна.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

*Карэспандэнта ОРТ пазбавілі акрэдытацыі*

# Трэцім будзеш!

Ілюстрацыяй да выканання Аляксандрам Лукашэнкам беларуска-расійскага статута, дзе запісаная фармулёўка аб забеспячэнні беларускім бокам прынцыпаў свабоды слова, стала пазбаўленне 7 ліпеня загадчыка бюро ОРТ у Мінску Паўла Шарамета акрэдытацыі пры міністэрстве замежных справаў Беларусі.

У паведамленні, распаўсюджаным беларускім МЗС у гэты ж дзень, матывіроўка пазбаўлення акрэдытацыі журналіста адсутнічае. У дакуменце ўтрымліваюцца абстрактныя фармулёўкі, з якіх вынікае, што *«ў рэпартажах Паўла Шарамета сістэматычна дапускаюцца наўмысныя скажэнні інфармацыі пра падзеі ў Рэспубліцы Беларусь, абразлівыя для пачуццяў усяго беларускага народа»*. Беларускім народам, у дадзеным выпадку, стала камісія МЗС Беларусі па разгляду пытанняў акрэдытацыі карэспандэнтаў замежных СМІ, дзе і было прынята рашэнне пазбавіць Шарамета акрэдытацыі.

Як паведаміў СВАБОДЗЕ адзін з чыноўнікаў МЗС, міністр Іван Антановіч да апошняга моманту выказваўся супраць такога жорсткага кроку напярэдадні прыезду 15 ліпеня ў Мінск прадстаўнікоў еўрапейскіх арганізацый. Аднак раздражнёная рэакцыя Аляксандра Лукашэнкі, які катэгарычна настойваў на пазбаўленні акрэдытацыі, стала кіраўніцтвам да дзеяння для беларускіх чыноўнікаў.



*У кастрычніку мінулага года іх было трое: Леанід Свірыдаў (РТР), Павел Шарамет (ОРТ), Аляксандр Ступнікаў (НТВ). Лукашэнка ўсіх выжыў.*

Прычынай раздражнёнасці Лукашэнкі, па словах Паўла Шарамета, з'яўляецца *«своеасаблівае разуменне беларускім прэзідэнтам прынцыпаў свабоды слова»*. Падставай для актыўных дзеянняў прэзідэнцкіх чыноўнікаў стаў сюжэт, паказаны 28 чэрвеня ў праграме «Время». У сваім рэпартажы Павел Шарамет назваў 3 ліпеня днём незалежнасці, прыдуманым Лукашэнкам, а таксама палічыў прычынай правядзення суботніка — недахоп сродкаў для ліквідацыі наступстваў урагану.

2 ліпеня беларускі МЗС запатрабаваў ад кіраўніцтва ОРТ сатысфакцый, але, як высветлілася, расіяне ўжо адвыклі ад савецкіх метадаў кіравання СМІ, а таму адказалі красамоўным маўчаннем.

Ацэньваючы сітуацыю, Павел Шарамет заявіў СВАБОДЗЕ, што нядаўняя высылка з краіны карэспандэнта НТВ Аляксандра Ступнікава суправаджалася актыўнай гульнёй Лукашэнкі на расійскай палітычнай авансцэне, а рэпартажы журналістаў з Беларусі на расійскіх тэлеканалах замінялі «славянскому единителю» стварыць у вачах расійскіх выбаршчыкаў імідж справядлівага правадыра. Пазбаўленне акрэдытацыі Павел Шарамет напрамую звязаў з пачаткам чарговага акту гульні Лукашэнкі ў Расіі.

**Яцэк ГАРБУЗОВІЧ**

### Прыходзьце да Купалы

Паэтычныя чытанні, арганізаваныя Сацыял-дэмакратычнай партыяй і Таварыствам беларускай мовы, адбудуцца ў чацвер (10 ліпеня) а шостай гадзіне вечара ў Купалаўскім скверы. Свае вершы будуць чытаць Генадзь Бураўкін, Мікола Аўрамчык і члены маладзёжнага літаратурнага аб'яднання «Бум-бам-літ».

**А.Н.**

## Шклоў прэтэндуе на міжнародны стадыён

**У Шклове пачаліся работы па рэканструкцыі мясцовага стадыёна «Спартак».**

Стадыён быў пабудаваны яшчэ ў 1990 годзе, але з прычыны грубых парушэнняў тэхналогіі будаўніцтва так і не пачаў дзейнічаць. Прэзідэнт у свой час заявіў, што бярэ спартыўны аб'ект пад асабісты кантроль. На рэканструкцыю было паабяцана каля 3 мільярдаў рублёў, на сённяшні дзень пералічана 300 мільёнаў.

У верасні стадыён павінен адчыніцца. На ім будзе 2.500 месцаў для гледачоў. Мяркуецца, што стадыён пройдзе міжнародную атэстацыю. Але, каб поўнасцю адпавядаць строгім патрабаванням *UEFA* — еўрапейскай футбольнай асацыяцыі, — трэба пабудаваць спецыяльны казырок над трыбунамі. А вось на гэта грошай няма. Таму першая запланаваная гульня на стадыёне — зусім не міжнародная: матч на прэзідэнцкі кубак паміж ветэранамі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

## Бел-чырвона-белы марафон

**Марафонцы — не толькі моцныя і вынослівыя, але таксама смелыя і прынцыповыя людзі.**

Гэта даказалі лідэры Беларускага незалежнага прафсаюза — салігорскія шахцёры Аляксандр Каралёў і Міхаіл Зімін. Яны ўдзельнічалі ў 4-м міжнародным мінскім марафоне, які супаў са святамі, што праходзілі ў сталіцы. Некалькі апошніх кіламетраў марафонскай дыстанцыі (а гэта — 42 кіламетры 192 метры) шахцёры прабеглі па вуліцах Мінска з бел-чырвона-белымі сцягамі. Шмат людзей, якія стаялі ў той час уздоўж праспекта Машэрава, дзе адбываўся фініш, віталі мужных спартсменаў авацыямі і воклічамі «Жыве Беларусь!» А пасля фінішу, калі да марафонцаў наблізіўся грозны міліцыянт і загадаў схаваць «незарэгістраваныя сцягі», яго дружна абсвісталі. «Вы што: хочаце, каб заўтра ў Салігорску ўспыхнула забастоўка шахцёраў?» — гэтых словаў Аляксандра Каралёва хапіла, каб страж парадку рэціраваўся, каб параіцца з начальствам. Мудрае кіраўніцтва, з якім міліцыянт звязаўся па рацыі, пэўна, вырашыла з марафонцамі не звязвацца. Бо бел-чырвона-белых марафонцаў усё роўна не дагоніш?

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

## Пратэст з Парыжа

**У прэзідэнцкую адміністрацыю паступіў пратэст з Парыжа, дзе знаходзіцца штаб-кватэра «Рэпарцёраў без межаў» — міжнароднай арганізацыі, якая абараняе правы журналістаў ва ўсім свеце.**

У пратэсце, які падпісаў Генеральны сакратар арганізацыі «Рэпарцёры без межаў» Рабэр Мэнар, выказваецца глыбокае занепакоенасць фактам, што карэспандэнт тэлекампаніі ОРТ Павел Шарамет пазбаўлены акрэдытацыі ў Беларусі. Прычым, адзначаецца ў дакуменце, беларускія ўлады неаднаразова прымалі рэпрэсіўныя меры ў дачыненні да журналістаў і, у прыватнасці, да супрацоўнікаў расійскіх тэлевізійных кампаній.

«Рэпарцёры без межаў» заклікаюць Лукашэнку адмяніць рашэнне беларускага МЗС аб пазбаўленні Паўла Шарамета акрэдытацыі і адзначаюць, што прад'яўленыя П.Шарамету абвінавачанні (у прыватнасці, скажэнне інфармацыі ў рэпартажы аб святкаванні 930-годдзя Мінска і так званага дня рэспублікі) выглядаюць вельмі недарэчна.

АКЦЫЯ

## Пікеты за аднаўленне Канстытуцыі

**15 ліпеня павінен пачацца другі раунд перамоваў паміж адміністрацыяй Лукашэнкі і разагнаным Вярхоўным Саветам пры пасрэдніцтве Еўрасаюза. З гэтай нагоды ў панядзелак, 7 ліпеня, у Мінску пачаліся пікеты, якія ладзіць Аб'яднаная грамадзянская партыя.**

Пікеты будуць праводзіцца штодзённа (за выключэннем нядзелі) да 19 ліпеня з 18 да 19 гадзін. Пікетоўшчыкі не абыходзяць сваёю ўвагаю ніводнага раёна сталіцы. Для пікетаў выбіраюцца ажыўленыя і мнагалюдныя месцы: каля станцыяў метро «Усход», «Пушкінская», «Трактарны завод», кінатэатраў «Кіеў» і «Бярэсце», на плошчы Казінца — усяго ў 10 пунктах у Мінску кожны дзень будуць пікеты. Шматдзённая акцыя дазволеная гарвыканкамам.

Мэтаю пікетаў з'яўляецца падтрымка на перамовах Вярхоўнага Савета і прыцягненне ўвагі грамадскасці да канстытуцыйнага крызісу ў Беларусі. Старшыня мінскай гарадской арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі дэпутат П.Данэйка падкрэсліў: *«Справай гонару кожнага сумленнага грамадзяніна нашай краіны павінна стаць абарона законнасці, якую ў лістападзе 1996 г. растаптала хеўра палітычных авантурыстаў, што прывяло Беларусь да міжнароднай палітычнай ізаляцыі»*.

Людзі, якія стаяць у пікетах, раздаюць ўлёткі, дзе адзначаецца, што з-за дзяржаўнага перавароту, які ўчыніў Лукашэнка, з Беларуссю не хочуць мець справаў цывілізаваныя краіны; таксама засяроджваецца ўвага на эканамічных правалах і сцвярджаецца, што *«ў Лукашэнкі не атрымліваецца нічога, за што б ён ні ўзяўся»*.

У пікетах ужо ўзялі ўдзел (і збіраюцца рабіць гэта надалей) дэпутаты ВС ад АГП: С.Багданкевіч, П.Данэйка, Л.Гразнова і інш. Першыя дні пікетаў сведчаць пра вялікую цікавасць людзей да згаданых праблемаў: прахожыя спыняюцца, задаюць пытанні, дзеляцца думкамі, а некаторыя спецыяльна прыязджаюць, каб сустрэцца з дэпутатамі.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

 



# Сваё жыллё – найлепшы стымул

**У райцэнтры Ветка Гомельскай вобласці вырашаюць праблему кваліфікаваных кадраў не заклікамі, не прымусам, а канкрэтнымі матэрыяльнымі мерамі.**

Веткаўскі раён — адзін з найбольш пацярпелых ад Чарнобыльскай катастрофы. У выніку прымусовага адсялення і міграцыю людзей раён абязлюдзеў: цяпер тут засталося ўсяго каля 20 тысяч жыхароў, з іх палова — пенсіянеры.

Не менш востра, чым у іншых раёнах, тут стаяла і праблема з кадрамі, перш за ўсё медыкамі і настаўнікамі. Але цяпер вакансій у школах і бальніцах практычна няма. Рэч у тым, што веткаўскія ўлады прапанавалі ўсім спецыялістам добраўпарадкаваныя кватэры ў новым 65-кватэрным доме. Акрамя таго, з мясцовых сродкаў уведзеныя дадатковыя надбаўкі да зарплаты для кваліфікаваных спецыялістаў бюджэтнай сферы. «Цякучкі» няма.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Мазыр трапіў у сетку

**Прадпрыемствы і жыхары горада Мазыра атрымалі магчымасць падключэння ў глабальную камп'ютэрную сетку *Internet*.**

У Мазыры, адным з самых буйных гарадоў Гомельскай вобласці, аб'яднанне «Белтэлекам» стварыла сучасны вузел сувязі, які дазваляе непасрэдна ўключацца ў міжнародныя камунікакацыйныя сістэмы. Да «сусветнага павуціння» *Internet* ужо падключыліся Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод, педінстытут, некалькі прыватных фірмаў, але гэта толькі пачатак.

**Ларыса КАВАЛЬЧУК**

# Рэчыца – горад пацыфістаў?

**Маладыя хлопцы з горада Рэчыцы Гомельскай вобласці не надта ахвотна ідуць у войска. Аднаго з іх, Уладзіміра С. 1971 года нараджэння, вось ужо восьмы год чакаюць на прызыўным участку — а ён усё не з'яўляецца.**

Дый сёлета павесткі разасланалі 774 хлопцам, а прыйшлі ў ваенкамат толькі 720. Аднак і яны не ўсе апрануць форму: 90 чалавек былі прызнаныя нягоднымі да службы па стане здароўя, 176 атрымалі розныя адтэрміноўкі ад прызыву, а 98 давялося накіраваць на дадатковае медычнае абследаванне. Як сведчаць лекары, стан здароўя прызыўнікоў у апошнія гады значна пагоршыўся, што звязана ў першую чаргу з пагаршэннем экалагічнай сітуацыі ў пацярпелай ад Чарнобыля Гомельскай вобласці, а таксама з элементарным недаяданнем юнакоў.

Па словах начальніка аддзялення Рэчыцкага гарадскога ваенкамата падпалкоўніка А.Каваля, на сённяшні дзень 7 прызыўнікоў ужо доўгі час знаходзяцца ў вышуку. Аднак, кажа падпалкоўнік А.Каваль, дарэмна яны спадзяюцца перачакаць, пакуль ім стукне 27 гадоў і яны дасягнуць непрызыўнога ўзросту. *«Рана або позна ўчастковы міліцыянер пастукае і ў ваш падвал»*, — грозна папярэджвае афіцэр.

Дарэчы, Рэчыца лідзіруе сярод гарадоў Гомельшчыны і па колькасці салдатаў, які самавольна пакінулі месца службы. Да апошняга часу такіх быо чацвёра, але ў пачатку чэрвеня, пасля трох з паловай гадоў уцёкаў і падполля, быўз затрыманы малодшы сяржант Б. Так што статыстыка палепшылася адразу на 25%, але праблема не знікла. І адзіным выйсцем тут бачыцца прыняцце закона аб альтэрнатыўнай вайсковай службе, які даўно падрыхтаваны, але замарожаны беларускімі заканадаўцамі.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# У школьныя класы хочуць пасадзіць міліцыю

**Мінскай міліцыі стала цесна ў сваіх апартаментах. Міліцэйскае начальства паклала вока на будынак школы. Настаўнікі, вучні і бацькі пратэстуюць супраць высялення. У панядзелак яны правялі пікет каля сваёй школы.**




*На здымку: вучні разам з настаўнікамі і бацькамі пратэстуюць супраць перадачы будынка школы сталічнай міліцыі.*

Школа № 41 знаходзіцца ў раёне вуліцы Маскоўскай, акурат насупраць будынка, дзе размяшчаецца гарадское Упраўленне ўнутраных справаў. У школе цяпер вучыцца 650 дзяцей. Тут працуюць 5 спецыялізаваных мастацкіх класаў, дзеці з першага класа вывучаюць англійскую і нямецкую мовы, многія вучні сталіся пераможцамі раённых і гарадскіх алімпіяд.

Аднак з нейкага часу пільную ўвагу да школы пачало праяўляць міліцэйскае ведамства. Спачатку «ахоўнікам парадку» прыглянулася школьная спартовая пляцоўка, на якой яны часта праводзілі свае трэніроўкі. Але апетыт, як вядома, прыходзіць падчас яды, і хутка міліцэйскаму начальству для размяшчэння непамерна вырасла га штату сваіх супрацоўнікаў спатрэбілася і сама школа. Шэф мінскай міліцыі Барыс Тарлецкі звярнуўся да мэра горада Уладзіміра Ярмошына з просьбай «вырашыць пытанне». І вось 1 ліпеня ў кабінеце дырэктара школы раздаўся тэлефонны званок з гарвыканкама. Дырэктару паведамілі, што адміністрацыя школы павінна заняцца пераводам вучняў у суседнія школы, бо будынак перадаецца ў распараджэнне гарадской міліцыі. Дырэктар сабраў настаўнікаў, а тыя паведамілі навіну бацькам вучняў. Бацькі стварылі аргкамітэт у абарону школы і накіравалі лісты ў прэзідэнцкую адміністрацыю, міністэрства ўнутраных справаў, міністэрства адукацыі і гарвыканкам.

7 ліпеня прыкладна 50 дзяцей, бацькоў і настаўнікаў арганізавалі пікетаванне гарадскога міліцэйскага ўпраўлення. Вучні трымалі плакаты з надпісамі *«Милиция! Не лови момент отхватить чужое добро — лови преступников!!!»*, *«На вашей стороне ваши законы, на нашей стороне наши дети!»* Да пікетчыкаў адразу выскачылі з дзесятак міліцыянтаў і спецаператары. Падпалкоўнік Мікалай Дрозд патрабаваў спыніць «несанкцыянаваны пікет» і пагражаў скласці пратаколы аб парушэнні прэзідэнцкага дэкрэта № 5. Людзі, аднак, разыходзіцца не збіраліся.

Тым часам да міліцэйскага ўпраўлення пад'ехаў генерал Тарлецкі, але падысці да пікетчыкаў ён не рашыўся і хутка знік за дзвярыма свайго ведамства. Маёр Гірэль падскочыў да школьнай агароджы, сарваў з яе некалькі плакатаў і з выглядам пераможцы адышоў да міліцэйскай машыны. Людзі яшчэ нейкі час стаялі на тратуары, пасля перадалі свой зварот у ГУУС, а некалькі прадстаўнікоў бацькоўскага камітэта аднеслі ліст пікетчыкаў у гарвыканкам. Там ім параілі прыйсці праз пару дзён, бо мэр Ярмошын знаходзіцца ў камандзіроўцы. Бацькі, аднак, саступаць уладам не збіраюцца і гатовыя да канца бараніць правы сваіх дзяцей.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Кансервавая канверсія за ўкраінскія грыўны

**У сасновым бары на тэрыторыі былой вайсковай часткі пад горадам Ельскам Гомельскай вобласці няма ні салдат, ні афіцэраў: тут працуе кансервавы завод.**

Летась 48 чалавек калектыву пачалі вытворчасць, і за першы ж год перапрацавалі дзесяткі тон сліваў, яблыкаў, лясных ягад і грыбоў. У гэтым годзе кансервавы бізнес развіваецца.

Аднак цікава, што нядаўні заробак на заводзе выплацілі... украінскімі грыўнамі. Рэч у тым, што менавіта ўкраінцы далі крэдыт на развіццё вытворчасці, дый прадукцыя прадаецца пераважна ва Украіне.

**Ларыса КАВАЛЬЧУК**

# Гомельскі бамонд павесяліўся

**Смачным абедам у рэстаране гатэля «Турыст» і праглядам праграмы вар'етэ «Сюрпрыз» скончыўся ў Гомелі кірмаш, арганізаваны аб'яднаннем «Гомельтурыст» і абласным бюро падарожжаў і экскурсій.**

Вядома, трапіць на пышны прыём мог не кожны аматар падарожжаў і турызму, а толькі той, хто меў спецыяльнае запрашэнне. Сярод такіх апынуліся пераважна вертыкальныя чыноўнікі і прафсаюзныя лідэры. На камфартабельным аўтобусе шаноўных гасцей звазілі ў Веткаўскі музей народнай творчасці, арганізавалі для іх бяспройгрышную святочную латэрэю, дарылі кветкі і кампліменты. У выступах адзначалася глыбокая падзяка тым, *«хто актыўна супрацоўнічаў з «Гомельтурыстам»*. Звычайныя кліенты, якія плацяць турыстычным аб'яднанням свае грошы, у лік асабліва адзначаных не трапілі.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# Ваюй, бабулька, з пустазеллем: маладых патрыётаў трэба добра карміць

Днямі пабываў у роднай вёсцы. Вёска як вёска. Можа толькі хутчэй за іншыя ляціць у светлую будучыню. З 50 хатаў — трэцяя частка ўжо пустыя. У школу, што ў суседняй вёсцы, ходзіць адно дзіцё. Працаздольнага калгаснага насельніцтва — нуль, усе пенсіянеры. Звычайны, як цяпер кажуць, электарат. Хто дае рады — яшчэ ходзяць на працу ў калгас, астатнія корпаюцца на падворках і чакаюць жабрацкую пенсію. Калгас яшчэ дапамагае пасадзіць соткі і можа прадаць надзел травы на сена. За гэта трэба абрабіць задарма дзялкі буракоў, морквы і аддаць задарма ў калгас.

У мінулыя гады гэтыя дзялкі былі пад сілу бедным пенсіянерам, бо дзялілі ў разумных памерах. Але сёлета норму павялічылі ўдвая. Яно і зразумела: тых, хто можа працаваць, становіцца меней, а тэорыя рынкавага сацыялізму патрабуе рэзкага павелічэння валавых паказчыкаў.

Калі мае аднавяскоўцы пацягнуліся за калгасным кіраўніцтвам браць дзялкі на поле — не паверылі сваім вачам. Там, дзе павінны быць буракі, — амаль у калена расла лебяда і іншыя нязменныя спадарожнікі слаўнага калгаснага ладу. Беднага бурака можна было знайсці, калі пашанцуе, праз метр, не часцей.

Палоць бабулькі адмаўляліся.

— Хай калгасныя канторшчыкі полюць! Іх там цяпер як мухаў у нашых хлявах, а пайдзі даведку ўзяць — за дзень не справішся.

Але начальства не згадзілася палоць, а пачало расповяд пра эканамічны цуд у краіне, пра нябачныя дагэтуль поспехі знешняй і ўнутранай палітыкі мудрага кіраўніцтва. Потым пра інтэграцыю, акліматызацыю і рынкавы сацыялізм з чалавечым тварам.

Электарат ні з месца.

Тады начальства распавяло пра ворагаў народа, капіталістычных акул і патрыятычны саюз маладых парасткаў. Каб усіх гэтых акул перамагчы, нашы геніяльныя абаронцы народа ўручылі маладым пераможны сцяг жабракоў і гультаёў. А каб гэты сцяг не выпаў з рук, маладых трэба добра карміць, абуваць, адзяваць і спаць лажыць.

— А калі вы, старыя карчы, не будзеце працаваць, то маладыя патрыёты не абароняць вас ад капіталістычных акул!

Бабулькі яшчэ ніжэй апусцілі галовы і маўчалі.

Давялося начальству даставаць казырную карту:

— Не хочаце палоць — не будзем абрабляць вашыя соткі і не прададзім сена!

Соткі для нашага вяскоўца святое, а карова бадай што адзіная карміцелька. Гэтую карту біць няма чым, таму электарат хуценька схапіў матычкі і кінуўся на пустазелле.

Прайшоў тыдзень. На гаротным полі калупаліся знясіленыя пенсіянеры, а канца-краю пустазеллю не відаць. Ужо не хацелі цяпер людзі ні сотак, ні сена. Яны хацелі спакою, адпачынку і на чым свет стаіць клялі калгасных кіраўнікоў.

Усё ж такі нехта патэлефанаваў куды трэба, і якраз у той дзень, калі я дапамагаў гаротным бацькам «весці бітву за ўраджай», на шыкоўных лімузінах наехала слугаў народных.

Ускормленыя, пад гальштукамі, з рукамі ў кішэнях, дзеці перабудовы і пражэкцёры рынкавага сацыялізму паведамілі знясіленаму народу пра небывалыя дажджы ў пустыні Сахара, пра беспрацоўных неграў Амерыкі і маладых патрыётаў, якіх трэба карміць.

— У пустыні, калі ідзе дождж, нічога садзіць і палоць не трэба — само вырасце! У Амерыцы негры, можа, і беспрацоўныя, але маюць па некалькі машын і шукаць працу кожны дзень ездзяць на новых. А нам на вашу працу кожны дзець на хворых нагах трэба клыпаць. А сваіх маладых патрыётаў засуньце сабе ў... — смела пачалі знясіленыя, але паразумнелыя, узнялі ўверх матыкі і пасунуліся на сваіх слугаў.

Прыкасцюменае начальства не стала даслухваць, куды запхнуць маладых патрыётаў, а хуценька паўскоквала ў свае лімузіны і націснула на газ.

Вось такі вясёленькі фінал гэтай сумнай, а, можа, і жудаснай карціны нашай рэчаіснасці.

Але ці фінал? Бо ўсё роўна знясіленыя пенсіянеры з дапамогай гарадскіх дзяцей даб'юць праклятае пустазелле. Потым за гэта адхварэюць, а значыць, скароцяць і так гаротнае сваё існаванне. Потым восенню збяруць, што вырасце, і задарма аддадуць у калгас. Там усё згніе, і на другую вясну ўсё пачнецца зноў. Начальства за гэта атрымае прэміі, падзякі, пуцёўкі на курорты, каб падлячыць сапсаванае ў бітвах за ўраджай і штодзённых пікніках здароўе.

Такая вось *finita la comedia*!

**Юры ГЛЕБІК,**
*г.п. Свіслач*
*Гродзенскай вобл*

# Ветэранаў чакаюць грамадскія работы

## *Пасля таго, як ім «усё растлумачаць»*

У Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласці ветэранскія арганізацыі сур'ёзна занепакоеныя нарыхтоўкай кармоў і бітвай за ўраджай. Раённы савет ветэранскіх арганізацый заклікаў усіх пенсіянераў ўзяць актыўны ўдзел у касьбе сена і будучым жніве. А каб дзядулі і бабулі не аддалі перавагу ўласным соткам, у пастанове ветэранскага савета рэкамендуецца, каб кіраўнікі калгасаў *«распрацавалі мерапрыемствы»* і правялі сярод старых *«тлумачальную работу»*.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# На прыватным бізнесе ставяць крыж

## *Мільярдныя штрафы нікому не адолець*

Каля 40% камерцыйных структур у Магілёве не прайшлі перарэгістрацыю. Да пачатку перарэгістрацыі тут было 10.612 прадпрыемстваў і прыватных прадпрымальнікаў, з іх 6.000 ужо спынілі сваю дзейнасць. Мясцовыя ўлады ў дачыненні прыватнага сектара праводзяць вельмі жорсткую палітыку. Да раней уведзеных збораў апошнім часам дадалося яшчэ некалькі. Цяпер яны значна перавышаюць аналагічныя зборы, што спаганяюцца ў іншых абласцях. Магілёўская асацыяцыя прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў, якая аб'ядноўвае структуры бізнесу і буйныя прамысловыя прадпрыемствы, звярнулася да гарадскога савета з заклікам зменшыць ці адмяніць уведзеныя зборы.

Але мясцовая палітыка мае карані ў Мінску. Напрыклад, указ прэзідэнта № 135 патрабуе, каб усе разлікі па сумах вышэй за 50 мінімальных зарплат праводзіліся толькі безнаяўным шляхам. І вось у гаспадарчых судах вобласці пачаўся разгляд справаў аб парушэнні гэтага ўказа. Ужо ўстаноўлены своеасаблівы рэкорд — аднаму магілёўскаму камерсанту прысудзілі амаль 14 мільярдаў рублёў штрафу.

**Іван ЗАСАДА**

# Селязнёў у Варшаве ўцякаў ад Шарэцкага

**Дэлегацыя Вярхоўнага Савета 13-га склікання на чале з Сямёнам Шарэцкім сёння вяртаецца з Варшавы, дзе яна брала ўдзел у штогадовай сесіі Парламенцкай асамблеі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (ПА АБСЕ).**

Па інфармацыі прэс-службы Вярхоўнага Савета, «беларускае пытанне» хаця і не было ў парадку дня пасяджэння, але шмат разоў закраналася вядучымі палітыкамі падчас іх выступаў на сесіі. У прыватнасці, занепакоенасць сітуацыяй у Беларусі выказаў прэзідэнт Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі, які ў наступным годзе будзе ўзначальваць Парламенцкую асамблею АБСЕ.

З ім быў салідарны і цяперашні кіраўнік гэтай арганізацыі, дацкі міністр замежных справаў Петэрсан. Выступаючы з дакладам аб становішчы ў Еўропе, ён спыніўся на сітуацыі ў Беларусі і асабліва падкрэсліў, што ў нас назіраюцца шматлікія факты парушэння правоў чалавека, не вытрымліваюцца нормы свабоды слова, друку і дэманстрацый. Сваю салідарнасць з беларускімі дэпутатамі, якія не прызналі лукашэнкаўскую канстытуцыю, асабліва падкрэслілі прадстаўнікі Бундэстага Германіі і Сайма Латвіі.

У Варшаве дэлегацыя Вярхоўнага Савета Беларусі правяла цэлую серыю сустрэч з парламентарыямі розных краінаў. У прыватнасці, адбыліся гутаркі з кіраўнікамі парламентаў Польшчы і Грузіі, членамі парламенцкіх дэлегацый Украіны, Туркменістана і шэрагу заходнееўрапейскіх краінаў. Своеасаблівымі, як звычайна, былі адносіны з расіянамі. Як паведамляе БелаПАН, спасылаючыся на словы Сямёна Шарэцкага, спікер Федэральнага сходу Расіі Генадзь Селязнёў увесь час ухіляўся ад сустрэчы з беларусамі. *«А шкада, у мяне набралася вельмі шмат словаў, якія я б хацеў сказаць гэтаму чалавеку...»* — так пракаментаваў С.Шарэцкі гэты факт. *«Сесія Парламенцкай асамблеі АБСЕ яшчэ раз прадэманстравала, што гэтая арганізацыя лічыць адзіным легітымным заканадаўчым органам у Беларусі Вярхоўны Савет 13-га склікання»*, — сцвярджаецца ў паведамленні прэс-службы ВС.

Дарэчы, днямі ў афіцыйнай беларускай прэсе з'явілася заява МЗС Беларусі адносна таго, што на Парламенцкую асамблею ў Варшаву не была запрошана дэлегацыя нацыянальнага сходу РБ.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

*МНЕНИЕ*

*Не все плохое связано с именем Александра Лукашенко. Будущие поколения, возможно, скажут «спасибо» первому президенту страны*

# За что мы должны ценить президента

**Во-первых, за рекламную кампанию Беларуси, осуществленную в мировом масштабе.** Кто знал о существовании нашей республики при правительстве Кебича? Насколько привычно воспринималась на телеэкранах сама надпись «Беларусь»? Все диаметрально поменялось с приходом в мировые информационные сообщения имени Александра Лукашенко. И нет ничего страшного в том, что Беларусь сегодня ассоциируется с избиениями журналистов и упразднением Верховного Совета. Плюс от минуса отличает одна палочка, тогда как от пустого места — целых две. Не страдает же Мадонна от того, что слава у нее скандальная, — лишь бы пластинки покупали. Во всяком случае, прочитав *Made in Belarus*, теперь в мире будут знать, что имеют дело с европейским товаром. Благодаря Лукашенко наша страна сохранила сотни миллионов долларов, которые ушли бы на рекламную кампанию.

**Во-вторых, за пропаганду демократических ценностей.** Историческая миссия первого белорусского президента в пропаганде идеалов демократии состояла в том, чтобы эту самую демократию отнять. Как в «Графе Монте-Кристо»: не испытав несчастья, человек не может чувствовать себя полноценно счастливым. Не испытав бедности, нельзя получить удовлетворения от богатства. Отобрав демократию, наш президент заставляет белорусов ценить демократические и национальные ценности. Это дорогой процесс, но раз он начался — значит, был нужен.

Вспомните, какая часть граждан три года назад знала, чем занимается парламент. А сколько белорусов знало текст Конституции, понимало принцип разделения властей и необходимость верховенства закона, подозревало о существовании Всеобщей декларации прав человека? Именно первый белорусский президент катализировал рост демократической сознательности населения Беларуси. Правовой Чернобыль начал расчищать Авгиевы конюшни.

Таким образом, нет катастрофы в том, что Александр Григорьевич у нас есть. Самое плохое настанет, если Лукашенко надолго останется. Потому что воспользоваться выгодами его правления мы сможем только после его ухода. Можно изменить имидж Беларуси, но нельзя уже изменить отношение цивилизованного общества к Александру Лукашенко. Тот приговор окончательный и вряд ли подлежит пересмотру.

**Артем КУЧИНСКИЙ**

# Новый политический водораздел

**Чарльз С.МЕЙЕР**

Невзирая на традиционные партийные названия и ярлыки, самый важный политический водораздел в современном мире пролегает между двумя фактически оформившимися коалициями: одну можно назвать партией глобализации, другую — партией локалистов. Первая стремится стереть географические границы, вторая — восстановить их. Говоря компьютерным языком, современный политический ландшафт формирует две новые «виртуальные партии», куда входят как приверженцы правых, так и левых взглядов.

## Конец марксизма

Возникновение этих двух новых «партий» связано с отмиранием политики, основанной на классовом принципе. Послевоенная политика на Западе, с характерным для нее противостоянием социал-демократических партий, отстаивавших социальное государство, и правых партий (христианско-демократических или ориентированных на деловые круги), делавших упор на роль частного капитала, фактически исчерпала себя в начале 80-х гг. К этому времени бывшие левые потеряли идеологическую цель — и не потому, что проиграли, а потому, что одержали победу в утверждении общественных ценностей.

В результате социальное государство и политика, направленная на поддержание высокой занятости, были институционально оформлены. Успех левых привел к широкому распространению таких социальных благ, как университетское образование. Он не означал радикального уравнения, а наоборот — принятие кейнсианского взгляда на экономику: активное влияние государства на промышленное развитие плюс стремление обеспечить полную занятость и расширение программ образования и социального обеспечения. Однако в 70-е гг. инфляция, воинственность профсоюзов, безработица и дефицит бюджета поставили под сомнение все достижения послевоенной эры. Неудовлетворенность положением вещей привела к тому, что избиратели отвергли социал-демократические правительства и призвали к власти консерваторов: Тэтчер, Рейгана и Гельмута Коля. А там, где социалисты пришли к власти, как это было в Испании и Франции, им пришлось учесть новые антиинфляционные реалии.

Переориентация макроэкономической политики была лишь частью глубоких изменений, произошедших в 70-е гг. Не менее важным было ослабление позиций марксизма. Падение коммунизма было частью общего исчерпания резервов социалистической политики в обеих системах — советской и западной. Коммунистические партии и интеллектуалы-марксисты потеряли почву под ногами, одновременно произошел упадок социал-демократической идеологии. Экономические трудности государственного социализма, а также военно-стратегические неудачи СССР (Ангола, Афганистан, размещение в Западной Европе, несмотря на протесты Движения за мир, ракет среднего радиуса действия) проходили под аккомпанемент критики марксизма изнутри и извне советского блока (профсоюз «Солидарность» в Польше, французские Новые философы и т.д.). В результате к власти в Советском Союзе пришел руководитель, начавший проводить реформы, всю масштабность которых он вряд ли понимал сам, и которые в конечном итоге привели к падению самой Коммунистической партии.

## Хозяйский подход

В результате возникла новая политическая повестка дня. Каковы главные экономические вопросы сегодняшнего дня теперь, когда в левой части политического спектра возник вакуум? Большинство этих вопросов связано с глобализацией: опасения относительно утечки рабочих мест из Европы и США в Латинскую Америку и Азию, темпы миграции, влияние зарубежных инвесторов, закрытие промышленных предприятий и т.д.. У людей резко усилилось ощущение, что они не хозяева у себя дома и — в смысле гарантий занятости и пенсионного обеспечения — в своей собственной жизни. До начала 80-х гг. национальное государство представлялось адекватным пространством для действия экономического законодательства. Не вызывало сомнений, что руководители государств могут влиять на налоговую и финансовую политику и таким образом обеспечивать занятость либо стимулировать конкуренцию.

Теперь национальные политики часто выглядят беспомощными перед сложностью существующих проблем. Решения, предлагаемые Европейским Союзом и Комиссией ЕС, выглядят слишком технократическими, слишком сложными, не принимающими в расчет общественное мнение и игнорирующими национальные нужды. Кроме экономических опасностей, процесс глобализации, как представляется, таит и опасности культурного плана. Кажется, что языковая раздробленность, незнакомые религиозные и этнические обычаи, различные подходы к отношениям между полами подрывают привычные удобные представления о собственной идентичности, связанные в сознании европейцев и американцев с верховенством национальных законов.

Подобная озабоченность явно ощутима во всем западном мире, хотя и выражается в каждой стране в специфической форме. Отсюда две партии: одна видит будущее в великом преобразовании экономики в сторону глобального капитализма, другая изо всех сил стремится укрепить границы — и имеет на то веские основания.

## Две чаши весов

Не следует, однако, излишне упрощать картину. Партия локалистов, озабоченная растущей глобализацией, сама по себе не едина. Часть локалистов стремится защитить национальное государство или отдельные провинции от влияния внешних сил и/или от более бедных просителей у себя дома. Таковы французский Национальный фронт, Партия Свободы в Австрии и Северная Лига в Италии. Другие сторонники локализма выработали стратегию, характеризующуюся меньшей ксенофобией и большим прагматизмом: при условии получения субсидий и гарантий социальной защиты они могут сотрудничать с глобалистами.

Не хочу идеализировать прежних левых, чья политико-идеологическая ориентация исчерпала себя, но мне все же кажется, что рыночный энтузиазм Новых левых оставляет опасный политический вакуум. С одной стороны, партия глобалистов представляется партией нео-либералов, связанных со старым центром политического спектра. Они убеждены, что рынок означает прогресс и богатство и что на месте старых рабочих мест возникнут новые. Они стоят за рост производительности, сокращение там, где необходимо, штатов и отчисление из зарплаты на страхование по безработице. Их призывы к постоянной модернизации подкрепляет логика рынка.

С другой стороны, озабоченность локалистов имеет под собой реальную основу. Эта «партия» объединяет людей, которые сталкиваются с действительными трудностями, связанными либо с разрушением традиционного уклада жизни, либо с угрозой их источникам существования. Было бы ошибкой записывать их в неофашисты. Было бы также ошибочно радоваться, что на национальных выборах они пока получают относительно малую долю голосов. Имеются все предпосылки к тому, что традиционный электорат левых перейдет на локалистские позиции: своя рубашка всегда ближе к телу.

Я не могу предложить волшебного рецепта смягчения проблем, порождаемых глобализацией. И все же я убежден, что негативные последствия глобализации невозможно просто так сбросить со счетов. Поступив подобным образом, мы дорого заплатим за отсутствие политического воображения.

*© Project Syndicate, June 1997*

*Чарльз С. Мейер — директор Центра европейских исследований Гарвардского Университета*

*НАЗНАЧЕНИЕ*

# Новый посол США в Беларуси – Дэниэл Спекхард

**Президент Клинтон назначил Дэниела В. Спекхарда, нынешнего заместителя посла по особым поручениям в Новых независимых государствах, на пост посла США в Беларуси.**

Спекхард является высокопоставленным сотрудником государственной службы и занимал различные должности в Белом доме, в Конгрессе и Агентстве международного развития, а также ряд ключевых должностей в Госдепартаменте.

Г-н Спекхард, уроженец штата Висконсин, начал свою карьеру в федеральном правительстве в 1982 г. с программы подготовки сотрудников для Управления делами при президенте; он работал в Управлении по делам малого бизнеса, в Агентстве США по международному развитию, а также в сенатском Комитете по делам малого бизнеса. В 1984 г. Спекхард поступил на работу в международный сектор контрольно-бюджетного отдела Исполнительного управления президента. В 1990 г. он стал советником заместителя Государственного секретаря. В 1992 г. он занял должность начальника отдела политики и ресурсов в аппарате заместителя Госсекретаря. Он отвечал за координацию международных программ по поддержке внешнеполитических инициатив.

С 1993 г. Спекхард является заместителем посла США по особым поручениям в Новых независимых государствах. В течение последних четырех лет он занимался утверждением внешнеполитических интересов США в рамках широкого спектра политических, экономических вопросов, а также вопросов безопасности, связанных с Новыми независимыми государствами бывшего Советского Союза.

Г-н Спекхард учился в университете штата Висконсин в г. Мэдисон и получил степень магистра естественных наук в области экономики, магистра гуманитарных наук в области государственной политики и административного управления и бакалавра гуманитарных наук (с отличием).

Г-н Спекхард владеет русским языком. Он женат на докторе Энн Спекхард; у них трое детей.

*USIA*

# Американские выпускники отмучились два месяца назад

Чтобы поступить в университет, американский школьник подает заявление задолго до окончания последнего класса. В ноябре-декабре он отправляет по почте в выбранные им высшие учебные заведения основные сведения о родителях, их имущественном положении и о себе самом, стараясь при этом представить себя в наилучшем свете (например, сообщить о своих спортивных достижениях), свой школьный средний балл и сочинение на свободную тему, в котором он так или иначе тоже рассказывает о себе. Кроме этого, абитуриенты обязаны сдать стандартный отборочный тест: вопросы с вариантами ответов, из которых следует выбрать правильный. Ответы обрабатываются на компьютере. Экзамен проводится независимой организацией одновременно на всей территории США, в специально отведенных для этого помещениях. Эта же организация по просьбе абитуриента направляет результат теста (сумму баллов) непосредственно в университет.



*Самая известная американская выпускница 1997 г. Челси Клинтон радуется вместе с родителями.*

Подача одного комплекта документов обходится долларов в 50. Если не жалко денег, абитуриент может подать их хоть во все университеты США.

Абитуриент не должен указывать, по какой специальности хотел бы учиться. Некоторые университеты приглашают подавших заявление на собеседование, которое проводится либо в самом университете, либо по месту жительства, где с абитуриентом беседует какой-нибудь местный выпускник того же вуза.

Университет присылает ответ по почте, обычно в марте-апреле. Если положительный ответ приходит сразу из нескольких мест, у будущего студента остается еще недели две-три на раздумья, после чего родители должны внести деньги за его обучение.

Таким образом, к окончанию школы будущее каждого выпускника уже определено: он знает, в каком университете будет учиться, хотя нередко впервые оказывается в его стенах лишь в первый день своего первого курса.

В нынешнем году закончили школу 2,6 миллиона американцев. Среди них и самая знаменитая выпускница 1997 года — Челси Клинтон. Поступив в Стэнфордский университет (штат Калифорния), она оказалась среди тех 60 процентов выпускников, которые поступили в высшие учебные заведения.

**М.Л.**

# Штраф за поцелуй

**Сильвино Капуто, мэр сицилийского городка Монреале, — большой борец за укрепление общественной морали. Последний из его декретов — запрет целоваться на улицах.**

Это решение городского головы так возмутило местную молодежь, что пятьдесят пар вышли на главную площадь города и начали демонстративно целоваться, дразня карабинеров, имеющих теперь право оштрафовать их на 2.000.000 лир (118 долларов). Полиция в эту акцию вмешиваться так и не решилась.

# Джеймсом Бондом командует женщина

**Эмансипация продолжает творить чудеса. Мисс Маннипенни отныне сможет отдавать приказы американским Джеймсам Бондам.**



Разведчица Клаудиа Кеннеди стала первой женщиной в США, которой присвоено звание генерал-лейтенанта. Трехзвездный генерал в юбке станет одним из руководителей разведки сухопутных войск. Меньше чем за четверть века слабый пол занял весьма важные позиции в вооруженных силах. Милые дамы водят боевые самолеты, служат на кораблях, командуют крупными базами.

# Англичанки отказываются рожать

**Как «драматическую» оценивает ситуацию с рождаемостью в Великобритании доклад, подготовленный Бюро национальной статистики.**

Все больше британских женщин стремится заводить детей как можно позже — после тридцати, а то и ближе к сорока годам. Растет количество женщин, в принципе отказывающихся от материнства. Таких среди потенциальных мам, по данным британских статистиков, насчитывается до одной четверти.

*По сообщениям зарубежной печати*

# Борцы с курением готовятся к наступлению по всей Европе

Табачные фабриканты до того любили британских консерваторов, что, когда Маргарет Тэтчер удалилась от дел, компания *Philip Morris* пригласила «железную леди» себе в лоббисты, «положив» ей, как говорят, 800 тысяч долларов в год. Поэтому в минувшем октябре в Хельсинки, куда съехались борцы с курением, самой животрепещущей темой был не вред от курения и не рекламный ковбой Мальборо — жарче всего обсуждалось, сумеет ли лейборист Тони Блэр на выборах, прошедших в мае этого года в Британии, одолеть приверженных пагубному пристрастию тори. Как вспоминает Грэг Конноли, эксперт по международной табакоторговле: *«Все молились за победу Блэра».*

## Германия минус Британия

И небеса вняли молитвам антитабачников. Возглавляемое Блэром лейбористское правительство внесло в парламент предложение запретить все виды табачной рекламы. Если такой закон будет принят, это нанесет очередной удар по всей табачной индустрии как на Британских островах, так и далеко за их пределами. В течение последних шести лет Британия и Германия возглавляли коалицию, выступающую против полного запрета табачной рекламы на территории стран — членов ЕС. Но теперь Британия оказалась по другую сторону баррикад и объединяет силы с французами, которые всем на удивление стали вдруг стойкими борцами против курения. Если ЕС в конце года вновь вернется к рассмотрению вопроса о запрете табачной рекламы, то сторонники запрета, судя по всему, настоят на своем. С победой лейбористов существенно возросли шансы на то, что табачным компаниям по всему континенту придется убрать рекламу своей продукции отовсюду, где еще вьется сигаретный дымок, — с гоночных автомобилей, уличных щитов и журнальных страниц.

Европейские борцы с курением куют железо, пока горячо. Им, конечно, далеко до всенародной поддержки, окрыляющей их коллег в Америке, где широкие массы добровольцев помогли добиться повсеместного запрета на курение в общественных местах. Тем не менее антиникотиновый «вирус» уже поражает в массовом порядке европейских чиновников. За последнее десятилетие ЕС запретил показ рекламы табачных изделий по телевидению, обязал изготовителей помещать на каждой пачке сигарет предупреждение о том, что ее содержимое опасно для здоровья, ввел ограничения на содержание смол и высокие налоги на продажу любых табачных изделий.

Если запрет на рекламу табака распространится и на печатную прессу, Европа обгонит даже Соединенные Штаты, где реклама в печатной прессе оберегает дюжий телохранитель — свобода слова. И покуда европейские туристы сетуют, что в американском ресторане нельзя закурить, в Старом Свете — в Норвегии, Португалии и Франции — повсюду запрещена всякая реклама сигарет. Производители табачных изделий стали чуть ли не обязательной мишенью для европейских политиков.

Все это тревожит прежде всего международные табачные концерны-гиганты, а не европейских производителей сигарет — для них запрет на рекламу оборачивается спасением от конкурентов. Для американцев иностранцы уже сейчас главные потребители их продукции, а Европа с Японией обеспечивают до 70 процентов прибыли от международных сделок. В странах ЕС курит каждый третий взрослый, тогда как в США лишь каждый четвертый. В прошлом году *Philip Morris*, крупнейшая мультинациональная корпорация, продала в Америке 231 миллиард сигарет, а за пределами США — 660 миллиардов. *«Мы считаем Западную Европу краеугольным камнем нашего бизнеса»,* — заявил представитель фирмы.

Активисты борьбы с курением надеются, что к их усилиям подключатся и жители Восточной Европы, ставшей после падения коммунизма выгоднейшим рынком для табачных монополий. Табачные гиганты скупили там больше тридцати бывших государственных фабрик и весьма активно занимаются собственными рекламными кампаниями. Однако бывшие страны «народной демократии», добиваясь членства в ЕС, уже начинают менять свою политику в этом вопросе. Польша, где на каждого взрослого ежегодно приходится больше 3.600 сигарет — самый высокий показатель в мире, — в прошлом году ввела у себя правила ЕС. Литва и Словения приняли законы о полном запрете табачной рекламы, но они еще не вступили в силу.

Европейцы перенимают у американских «антитабачников» их методы борьбы. Тони Блэр, подобно Биллу Клинтону, понял, какую популярность сулят нападки на некогда неприкосновенных «табачных королей». *«Меняется, и довольно стремительно, само отношение к этому вопросу»,* — говорит Мартин Дэй, адвокат, представляющий интересы 40 бывших курильщиков, подавших в суд на компанию *Imperial Tobacco & Gallaher*, крупнейшего в Британии производителя сигарет. Все они заболели раком легких и теперь обвиняют фирму в том, что в выпущенных ею сигаретах недопустимо высокий процент смол.

## Табачные герои идут в обход

Два с лишним десятилетия назад британское правительство заключило «полюбовное соглашение» с табачными компаниями: реклама их продукции запрещена на ТВ, радио, в кинотеатрах и витринах магазинов; она не может быть адресована детям и содержать утверждения, будто сигарета придает человеку привлекательность. Эти ограничения не помешали табачным фабрикантам искать и находить путь к сердцу покупателя: помимо прочего, они выступали спонсорами спортивных соревнований, и на экранах телевизоров появлялись их названия и логотипы, изображенные на машинах, участвующих в гонках «Формулы-1», и на бортиках стадионов. Внесенный лейбористами законопроект, который, учитывая их численный перевес в Палате общин, можно считать уже одобренным, предусматривает запрет и на спонсорство спортивных мероприятий. Те же меры будут приняты в странах ЕС. Клайв Тернер, глава Британской ассоциации табачных производителей, сетует: *«Нам просто вздохнуть не дают!»*

Дебаты по поводу рекламы сигарет обретают все больший накал, а в стороне между тем остается главный вопрос: в самом ли деле запреты сокращают число курильщиков? Производители утверждают, что реклама не побуждает к курению как таковому, а лишь позволяет выбрать конкретную марку. В самом деле, повышение акцизов всегда было куда эффективнее, чем борьба с рекламой. Однако результаты зависят и от того, насколько строго эти запреты выполняются, и от того, как далеко они распространяются — пресекают ли косвенную рекламу, вроде выпуска маек или зонтиков с торговыми знаками тех или иных товаров.

Франция ввела запрет в 1992 году, и с тех пор количество курильщиков сократилось на 9 %. В Британии, где отношения правительства с производителями сигарет выливаются в самые суровые законы, регулирующие рекламу их продукции, общее число курильщиков за последние 14 лет упало, хотя среди молодежи наблюдается незначительный рост потребления.

Сейчас уже можно представить себе Европу, где не будет ни одного щита, изображающего ковбоя с «Мальборо» в зубах. Курильщики живые, а не нарисованные, переведутся, надо думать, несколько позже.

**Алан ЗАРЕМБО**
*Newsweek*



© СВАБОДА Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by СВАБОДА ў internet: http:\\www.gis.minsk.by Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 34.250
Нумар падпісаны ў друк 08.07.97 (15:00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 325